# ПАЛЯУНІЧЫ БЕЛАРУСІ









## Дзевяць год бяз Леніна — па ленінскім шляху



1 1933

# Праверыць выкананьне дагавароў

У пэрыяд падрыхтоўкі да пушных загатовак 1932 году ўсе загатоўчыя організацыі шырока разгарнулі работу па заключэньні дагавароў з паляўнічымі на здачу прадукцыі іх промыслу. Па колькасьці заключаных дагавароў і па суме закантрактаванай пушніны кампанія па Магілеўскім раёне праведзена як быццам здавальняюча. Загатаўцелі сьцьвярджаюць, што пляны іх „перавыкананы дагаварамі“, выкананьне іх забясьпечана „цалкам і поўнасьцю“ і „на ўсе 100 проц.“.

Якасьць заключаных дагавароў зусім дрэнная.

Да прыкладу, **Гаранская і В. Бялевіцкая** паляўнічыя ячэйкі свой плян па выкананьні дагавароў давялі да 50 проц. Гэтыя паляўнічыя захаваліся толькі ад дзяржаўных абавязкаў. Такія „паляўнічыя“ заключаюць дагавары з загатаўцелямі выключна з тых меркаваньняў, каб пад відам прамысловага паляваньня вызваліцца ад работы на лесазагатоўках і інш. (прамыслаўікі—паляўнічыя, згодна пастанові ўраду, вызваляюцца ад абавязкаў дзяржаўнай павіннасьці).

У гэтым выпадку адмоўны бок праведзенай дагаворнай кампаніі асабліва шкодны, бо акрамя размагнічваньня пушна-мехзагатовак, яна адбіваецца на калгаснай рабоце, на будоўлі і на лесазагатоўках.

У час перарэгістрацыі мы павінны дакладна праверыць свае паляўнічыя рады і вычысьціць усіх, што прымазаліся да саюзу паляўнічых,—лодыраў, шкоднікаў і злачынцаў, якія ўхіляюцца ад выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў па дагавору.

Абавязак кожнага сумленнага паляўнічага, які прыкладае ўсю сілу і энэргію да выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў па здачы пушніны і мехсыравіны, выявіць ілжэ-паляўнічых і выкінуць іх з сваіх радоў. Гэтым самым мы забясьпечым поўнае выкананьне пляну па заключаных дагаварох.

**Р. К.**

# АНДАТРА

Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі атрымліваюць у год 20 мільёнаў долараў за мехавыя вырабы з мяхоў балотнага труса—андатры. У перакладзе на нашыя грошы—40 мільёнаў рублёў атрымліваюць Злучаныя Штаты бяз усялякай затраты сіл і грошай. Акрамя гэтага мяса з андатры лічыцца вельмі смачным.

Андатра—зьвер вельмі няпрыхатлівы, здольны ў некалькі гадоў засяліць вялізарныя плошчы пустыроў паўночнай тундры, болот, пабярэжжы замшэўшых азёр і рэчак поўначу Савецкага Саюзу.

У СССР зьвер андатра ўпяршыню завезены з Амэрыкі ў 1928 годзе. Першым ініцыятарам і насадзіцелем андатравых гаспадарак у Савецкім Саюзе зьяўляецца т. Сташэўскі. Абапіраючыся на групу маладых натуралістаў—энтузіястаў і на сваё бальшавіцкае чуцьцё т. Сташэўскі пачаў увозіць андатру з Амэрыкі і з Фінляндыі, і насаджваць яе ў балотных мясцох, мяжуючых з азёрамі, тундравую расьлінасьцю і дзе ня могуць расьці хваёвыя лясы.

Для разьвіцця андатры не мяшаюць і лясы, але толькі з аднэю ўмоваю, каб была вада і быў корм. Андатра-ж паядае ўсё, пачынаючы з лопуху, вадзяных збаночкаў і канчаючы гароднінай. Амаль усе выгляды нашай вадзяной травяністай паўночнай флёры зьяўляюцца зьядобнымі для андатры.

Вялікія абшары Паўночных Злучаных Штатаў займаюць балоты, азёры і рэкі, што спарадзіла добрую глебу для разьвіцця андатравых гаспадарак. Да эканамічнага крызісу, які да асноў здрыгануў усю капіталістычную сыстэму ў Амэрыцы, самымі прыбытковымі лічыліся андатравыя гаспадаркі. Варта было толькі некалькі штук андатр выпусьціць у балота, каля возера, ракі ці нават сажалак, як праз гадоў 5 на гэтым месцы вырастала андатравая гаспадарка ў некалькі тысяч штук андатр, гэтых каштоўнейшых і найпрыбыткоўнейшых зьяркоў.

Андатра, як і трус надзвычай пладавіта—яна ў год дае 2 памёты ў сярэднім па 6 штук андатарат, якія цераз паўгода таксама здольны вытварааць патомства. Паходзіць андатра з грызуноў. Мех андатры бурават-рыжаватай афарбоўкі, моцны, цёплы, носкі, зьлёгку напамінае мех выдры і норкі.

У 1928 годзе была завезена на Салавецкія астравы 20 штук андатарат. У 1932 г. андатравая гаспадарка Салавецкіх астравоў ужо складае тысячы пар андатраў і зьяўляецца школай, п томнікам, адкуль андатра вывозіцца і насаджаецца ў іншых мясцох Савецкага Саюзу.

Архангельская вобласьць суцэльна ахоплена андатравымі гаспадаркамі. Пачынаючы ад самога Архангельску ва ўсе канцы разышліся андатры, засяляючы вазёры, рэчкі і балоты, лёгка ўжываючыся на флоры і фаўне нашага поўначу. Ужо кожны наступны год прыносіць сотні і мільёны штук гэтага каштоўнейшага зьвера, дае новы від шырспажыву. Але гэта толькі выведка. Андатра насаджаецца на тысяча кілёмэтравых прасторах Сібіры. Басэйны рэк Обі, Енісея, Лены і іншых дадуць краіне Саветаў дзесяткі мільёнаў штук зьвера, каштоўнейшых мяхоў і смачнага мяса.

Адлоў зьвера пачынаецца цераз 2—3 гады, калі будзе прызнана, што гэта не падарве разьвіцця андатравых гаспадарак. **А. Ш.**

# Перасяленьне вавёркі

Вільготная вясна 1932 году мела ўплыў на ураджай яловай шышкі ў лясох Аршанскага раёну. На гэктар лесу было толькі 2—3 дрэвы, якія мелі па дзесятку шышак. Недарод шышак выклікаў перасяленьне вавёркі.

У верасьні месяцы 1932 г. каля станцыі Ворша зьявілася шмат вавёрак, якія накіроўваліся на Ўсход, але на сваім шляху сустрэлі перашкоду—раку Дняпро.

Вавёркі заставаліся ў лесе каля станцыі і некалькі дзён можна было бачыць, як яны лазілі па стрэхах дамоў, вышках і цераз дзён пяць зусім зьніклі.

У лясной дачы Аршаншчыны—Хамінічы заўсёды было шмат вавёрак, а зараз там амаль што няма ніводнай.

***Жукоўскі.***

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

7441

# Паляўнічы Беларусі

№ 1 СТУДЗЕНЬ 1933 г.

Орган Каапэрацыйна-прамысловага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗ“ г. Менск, Савецкая, 68

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ VII-ы год выданьня



## Гістарычны пленум

„Вынікі пяцігодкі паказалі, што партыя непераможна, калі яна ведае, куды весьці справу і не баіцца труднасьцяй“ (Сталін).

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК, які гэтымі днямі закончыўся, падвёў вынікі пераможнаму выкананьню праграмы першай пяцігодкі за чатыры гады, намеціў асноўныя ўстаноўкі другой пяцігодкі і пляну 1933 году, прыняў рад важнейшых пастаноў, зьвязаных з вырашэньнем асноўных палітычных задач партыі на цяперашнім этапе. Гэты пленум зойме вялікае месца ва ўсёй гісторыі нашай партыі і савецкай улады.

Вялізарная работа, праведзеная партыяй за апошнія чатыры гады пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК, пад кіраўніцтвам нашага правадыра і настаўніка тав. **Сталіна**, наперакор роспачліваму супраціўленьню клясавага ворага ўнутры краіны, наперакор яго саюзьнікам—контррэвалюцыйным трацкістам і правым рэнэгатам, наперакор апартуністам усіх масьцей, здраднікам, перараджэнцам, **зусім зьмяніла твар нашай краіны, гіганцкі ўзьняла яе міжнародную магутнасьць і абароназдольнасьць**, высунула СССР у рады перадавых прамысловых краін.

Гэты факт мае выключнае значэньне ня толькі для далейшых посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім саюзе, але і для лёсу міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі. І недарма свой даклад аб выніках першай пяцігодкі тав. **Сталін** пачаў з таго, што падкрэсьліў усю важнасьць выкананьня пяцігодкі за чатыры гады ў Савецкім саюзе для рабочых і працоўных капіталістычных і каленіяльных краін.

Сем год назад, на **XIV** партыйным зьезьдзе, апазыцыя, выступаючы супроць генэральнай лініі нашай ленінскай партыі, прабавала даказаць немагчымасьць пабудовы сацыялізму ў СССР, сьцьвярджала, што нам суджана быць аграрным прыдаткам перадавых капіталістычных краін, пакуль у гэтых краінах не пераможа рэвалюцыя.

Адкінуўшы гэту капітулянцкую ўстаноўку апазыцыі, якая прыкрывалася „левай“ фразай, XIV партыйны зьезд намеціў шлях да пабудовы сацыялізму ў нашай краіне—шлях **індустрыялізацыі**.

Дасягнутыя партыяй на гэтым шляху посьпехі дазволілі наступнаму **XV** зьезду паставіць пытаньне аб масавай калектывізацыі вёскі, аб пераходзе дзесяткаў мільёнаў адсталых і распыленых сялянскіх гаспадарак на рэйкі **буйнай грамадзкай гаспадаркі**. Гэта асноўная ўстаноўка XV зьезду была накіравана і супроць трацкістаў, якія скаціліся на контррэвалюцыйныя пазыцыі, і супроць правых. Як тыя, так і другія сьцьвярджалі, што наша сельская гаспадарка можа разьвівацца **толькі па капіталістычным шляху**.

XV зьезд быў зьездам калектывізацыі. І іменна таму ён падкрэсьліў неабходнасьць бальшавіцкіх тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці, асабліва цяжкай.

Калі мы пасьля XV зьезду дасягнулі гіганцкіх посьпехаў у разьвіцьці прамысловасьці, выкананьня пяцігодкі за чатыры гады, то ў гэтым вялізарную ролю адыграла **пасьпяховая сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі**. Дзякуючы посьпехам калгаснага і саўгаснага будаўніцтва, мы атрымалі магчымасьць павялічыць на 21 млн гэктараў пасеўную плошчу і загатовіць у 1931-32 г. 1.400 млн. пудоў збожжа супроць 700 млн., якія загатаўляліся ў 1927-28 г.

Толькі такое гіганцкае павялічэньне збожжавых рэсурсаў пралетарскай дзяржавы стварыла магчымасьць вялізарнага росту прамысловасьці і рабочай клясы.

Але калі, з другога боку, мы з такім посьпехам праводзілі калектывізацыю вёскі, ліквідуючы на гэтай аснове кулака, то толькі таму, што хутка ўзрастаючая **прамысловасьць узбройвала нашу сельскую гаспадарку новымі, удасканаленымі прыладамі**, давала магчымасьць МТС ахапляць усё новыя і новыя мільёны аб'яднаных у калгасы сялянскіх гаспадарак.

Само сабой зразумела ў гэтым узаемадзеяньні роля рашаючага вядучага вагара належала нашай цяжкай індустрыі, росту рабочай клясы, умацаваньню яе ўплыву на вёску, якая перабудоўваецца. І правыя апартуністы з пункту гледжаньня сваёй лініі, лініі агентуры клясавага ворага, былі пасьлядоўны, выступаючы ня толькі супроць калектывізацыі за палітыку „бесьперапынных уступак“ (Томскі), здачы кулаку эканамічных і палітычных пазыцый пралетарскай дыктатуры, але і супроць бальшавіцкіх тэмпаў індустрыялізацыі, супроць пяцігодкі, за кулацкую двухгодку (Рыкаў).

Антыіндустрыялізатарская, кулацкая палітыка правых вяла да абяззброеньня СССР перад тварам міжнароднага імпэрыялізму, які шукае выхаду з крызісу шляхам перадзелу сьвету за кошт больш адсталых і слабых народаў. Капітуляцыя перад кулаком, перад сіламі капіталістычнай растаўрацыі ў нашай краіне, якая падрыхтоўвалася правымі, азначала таксама капітуляцыю перад міжнародным імпэрыялізмам.

Толькі на аснове самай бязьлітаснай барацьбы **на два франты**—з правымі капітулянтамі, фактычна перайшоўшымі на бок клясавага ворага, з іх „левымі“ саюзьнікамі, партыя забясьпечыла **выкананьне дзьвёх асноўных гістарычных пастаноў свайго**

апошняга XVI зьезду—аб выкананьні пяцігодкі за чатыры гады і аб калектывізацыі.

І той, хто і зараз яшчэ праводзіць лінію правых, той разам з групай Руціна-Сьляпкова або групай Эйсмонта-Сьмірнова—за зрыў дасягненьняў пяцігодкі і калектывізацыі, за аднаўленьне кулацтва, за аддачу нашай краіны ў кабалу замежнаму імпэрыялізму.

Аб'яднаны пленум яшчэ раз у сваіх пастановах завастрыў увагу партыі супроць двурушнікаў і здраднікаў, якія, заяўляючы на словах аб згодзе з генэральнай лініяй партыі, на справе ашукваюць партыю, выкарыстоўваюць свае партыйныя білеты і правы члена партыі ў контррэвалюцыйных мэтах. Просты і пільнейшы абавязак усёй партыі і кожнай партыйнай арганізацыі ачысьціць свае рады ад здраднікаў і перараджэнцаў.

Пленум яшчэ раз падкрэсьліў абсалютную недапушчальнасьць у радох бальшавікоў тых „славесна-дэклярацыйных“ адносін да генэральнай лініі партыі, якія ярка праявіліся з боку былых правадыроў правай апазыцыі — Рыкава і Томскага, ня лічыўшых сваім абавязкам змагацца на справе за генэральную лінію партыі ў сваёй штодзеннай рабоце і падтрымліваўшых сувязь з антыпартыйнымі элемэнтамі. Пленум зрабіў рашучае папярэджаньне былым правадыром правай апазыцыі.

Пераможна выканаўшы праграму першай пяцігодкі, партыя ўступае цяпер у першы гаспадарчы год новай пяцігодкі. Другая пяцігодка будзе пераважна пяцігодкай асваеньня, „што не выключае, а мае на мэце далейшае разьвіцьцё новага будаўніцтва“.

„... Другая пяцігодка... павінна дапоўніць цяперашні лёзунг новага будаўніцтва новым лёзунгам асваеньня новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі“ (рэзалюцыя пленуму па дакладах т. т. **Сталіна, Молатава і Куйбышава**).

Забясьпечыць правільную эксплёатацыю нова пабудаваных прадпрыемстваў, новастворанных галін прамысловасьці, цалкам выкарыстаць іх унутраныя рэсурсы, забясьпечыць іх устойлівымі кадрамі рабочых, тым самым забясьпечыць іх нормальную бесьперабойную работу, узьняць якасьць работы і працоўную дысцыпліну—такава сур'ёзьнейшая задача нашых дзён.



У вёсцы мы маем пяць тысяч саўгасаў, больш дзьвёх з паловай тысяч МТС, 200 тысяч калгасаў. Гэта вялізарная арганізацыя, якая пры правільнай і нармальнай рабоце ў поўнай меры забясьпечвае **вялізарны ўздым нашай сельскай гаспадаркі і завяршэньне яе сацыялістычнай рэканструкцыі.**

Гэтаму перашкаджае тое, што многія нашы саўгасы, МТС, калгасы, зямельныя органы засьмечаны варожымі элемэнтамі, агентамі гаспадарча-разгромленага кулацтва, былымі кулакамі і белагвардзейцамі, якія знаходзяць сабе дапаможнікаў, супольнікаў і ўкрывальнікаў сярод некаторых камуністаў-перараджэнцаў, простых ворагаў, пралезшых у партыйныя арганізацыі.

Вышыбленыя з усіх сваіх эканамічных пазыцый і распоўзшыся па нашых калгасах, саўгасах, МТС, зямельных органах, кулацкія і белагвардзейскія элемэнты, выкарыстоўваючы папушчэньне некаторых партыйных арганізацый і дапамогу асобных камуністаў, усю сваю ўвагу зьвярнулі на падрыў працоўнай дысцыпліны, раскрадваньне калгаснай і саўгаснай маемасьці, псаваньне інвэнтару, зьнішчэньне жывёлы, засьмечаньне палёў, зрыў сяўбы, уборкі, загатовак.

А нашы партыйныя арганізацыі далёка ня ўсюды раскусілі гэту новую тактыку клясавага ворага, далёка ня ўсюды зразумелі, што калектывізацыя патрабуе ад іх **умацненьня,** а не аслабленьня **ўвагі да сельскай гаспадаркі,** да арганізацыі сяўбы, уборкі, загатовак; скрозь і ўсюды пераацэньвалі форму калгасу, лічачы, што адна гэта форма сама па сабе гарантуе нас і ня можа быць выкарыстана супроць савецкай улады.

Пленум сурова па-бальшавіцку раскрытыкаваў недахопы ў рабоце нашых партыйных арганізацый па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, якія праявіліся асабліва ярка на Украіне, Паўночным Каўказе і Ніжняй Волзе.

Паміж задачамі індустрыялізацыі, разьвіцьця прамысловасьці і разьвіцьця сельскай гаспадаркі існуе цясьнейшая непарыўная сувязь.

Хто-ж займаецца на справе сацыялістычнай рэканструкцыяй сельскай гаспадаркі, адбрэхваючыся або адпісваючыся рэзалюцыямі, хоць-бы пад відам клопатаў аб прамысловасьці, той зрывае намечаныя і правадзімыя партыяй бальшавіцкія тэмпы індустрыялізацыі, той дапамагае клясаваму ворагу.

Баявая задача партыі заключаецца ў тым, каб, умацоўваючы калгасы і саўгасы, ачысьціць іх ад контррэвалюцыйных шкодніцкіх элемэнтаў, зламаць супраціўленьне рэштак кулацтва, паставіць шырокую работу па сацыялістычным перавыхаваньні калгасьнікаў і работнікаў саўгасаў, мабілізаваць іх на абарону **грамадзкай уласнасьці — асновы нашага ладу** — ад пасяганьняў клясавага ворага.

Маючы гэта на ўвазе, пленум прыняў важнейшую пастанову аб арганізацыі палітаддзелаў пры саўгасах і МТС. **Гэтыя палітаддзелы павінны стаць мацнейшымі апорнымі пунктамі пралетарскай дыктатуры ў вёсцы, мацнейшымі вагарамі работы партыі па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, па сацыялістычным перавыхаваньні калгасных мас.**

З сапраўдным паваротам нашых партыйных арганізацый тварам да сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, з пасьпяховым вырашэньнем задачы арганізацыйна - гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і саўгасаў, чысткай іх ад варожых элемэнтаў, паляпшэньнем работы нашых сельскіх партыйных арганізацый, савецкіх і зямельных органаў, зьвязана **забесьпячэньне хуткага пад'ёму і завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, разгортваньне савецкага, у прыватнасьці, калгаснага гандлю і таваразвароту, паляпшэньне рабочага снабжэньня, пашырэньне сырцовай базы лёгкай прамысловасьці, павялічэньне вырабу прадметаў шырокага ўжытку, забесьпячэньне намечаных праграмай другой пяцігодкі тэмпаў разьвіцьця цяжкай і лёгкай прамысловасьці.**

Кулацтва, якое пераможна ліквідуецца намі на аснове суцэльнай калектывізацыі, было апошняй апорай капіталістычнай эксплёатацыі ў нашай краіне. Яго рэшткі аказваюць цяпер роспачлівае супраціўленьне нашаму сацыялістычнаму наступленьню ў вёсцы. Але асобныя кулацкія элемэнты пралазяць ў нашу прамысловасьць, на новыя прадпрыемствы, на будоўлі. Там яны таксама прабуюць весьці разбуральную работу, падрываючы працоўную дысцыпліну, ударніцтва, сацспаборніцтва, арганізуючы прагулы.

Далейшае паляпшэньне арганізацыі працы на прадпрыемствах, умацаваньне дысцыпліны, узьняцьце прадукцыйнасьці працы, выкараненьне прагулаў, павышэньне якасьці работы, зьніжэньне сабекошту маюць на мэце максымальную пільнасьць, бязьлітасную барацьбу супроць варожых элемэнтаў, якія пралазяць на нашы прадпрыемствы, а часамі ў камсамольскія і партыйныя арганізацыі, маюць на мэце паляпшэньне масавай работы гэтых арганізацый, паляпшэньне іх складу.

Аб'яднаны пленум ухваліў пастанову Палітбюро **аб чыстцы партыі ад ненадзейных, няўстойлівых і прымазаўшыхся элемэнтаў.**

Кожны камуніст павінен ня толькі на словах прымаць генэральную лінію партыі, але і бараніць яе ў сваёй штодзеннай практычнай рабоце, ведаць праграму і тактыку партыі, праводзіць у жыцьцё яе пастановы, на справе змагацца з усякім апартунізмам і з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай, на справе выкрываць ашуканцаў і здраднікаў партыі, захоўваць і ўмацоўваць **жалезную бальшавіцкую дысцыпліну.**

Мы стаім на рубяжы другой пяцігодкі. Радыкальна зьмяніўся твар нашай краіны. Першая пяцігодка за чатыры гады выканана. Але вораг не дабіт яшчэ ўнутры краіны. Ашалелыя імпэрыялістычныя зграі за граніцай яшчэ не адмовіліся ад сваіх інтэрвэнцыяніцкіх прошукаў. Яшчэ цясьней згуртаваць свае рады вакол ленінскага ЦК і **наступаць далей, замацоўваючы заваяваныя пазыцыі,** рашуча крытыкуючы і перамагаючы на-хаду ўсе недахопы, нелады, элемэнты бюракратызму і бесталкоўшчыны, „очковтирательства“, алілюйшчыны, паляпшаючы канкрэтнае кіраўніцтва на ўсіх вучастках свайго наступленьня, якое працягваецца на ўсіх вучастках сацыялістычнай будоўлі, дабіваць рэшткі ворага, выкрываць і выкідваць са сваіх радоў яго агентуру—такава задача партыі.

**„Вынікі пяцігодкі паказалі, што партыя непераможна, калі яна ведае, куды весьці справу і не баіцца труднасьцяй“ (Сталін).**

**(„Зьвязда“).**



Агульны выгляд вурочышча „Гайкаўка“ з плаціны на р. Лабжанка, Клімавіцкага раёну.



# Баявая праверка партыйных радоў

**„Хто хоць колькі-небудзь аслабляе жалезную дысцыпліну партыі і пралетарыяту (асабліва за час яго дыктатуры), той фактычна дапамагае буржуазіі супроць пралетарыяту“.**

**„Пакінуць у партыі толькі сьвядомых і шчыра адданых камунізму“.**

(*Ленін*).

Паводле пастановы Цэнтральнага Камітэту партыі, апублікаванай у „Правде“, на працягу 1933 г. будзе праведзена чыстка членаў партыі і кандыдатаў у члены партыі. Адначасова, з дня апублікаваньня гэтай пастановы спыняецца перавод у члены партыі і прыём у кандыдаты па ўсім СССР, як у горадзе, так і на вёсцы.

Гэта пастанова ЦК, якая мае выключна важнае палітычнае значэньне, грунтуецца на пастанове XVI партканферэнцыі (красавік 1929 год) аб неабходнасьці праводзіць пэрыядычныя чысткі ўсіх членаў і кандыдатаў УсеКП(б) у мэтах паляпшэньня сацыяльнага складу, узьняцьця палітычнага і маральнага ўзроўню партыйных арганізацый на мясцох і партыі ў цэлым.

Праводзячы генэральныя чысткі сваіх радоў, а таксама частковыя праверкі (членаў і кандыдатаў вытворчых ячэек пасьля XIII партыйнай канфэрэнцыі, частковая праверка вясковых ячэек у 1926 годзе), правяраючы работу кожнага камуніста, аддана сьць яго справе рабочае клясы, наша партыя выконвала і выконвае адну з умоў (пункт 13) прыналежнасьці да Камінтэрну, якая патрабуе:

**„Камуністычныя партыі тых краін, дзе камуністы вядуць сваю работу легальна, павінны праводзіць пэрыядычныя чысткі (перарэгістрацыі) асабістага складу партыйных арганізацый, каб сыстэматычна ачышчаць партыю ад дробнабуржуазных элемэнтаў, якія няміնуча да яе прымазваюцца“.**

За пэрыяд ад XVI зьезду колькасьць членаў і кандыдатаў партыі павялічылася на 1.278 тыс. (на 1 красавіка 1930 году—1.852 тыс., на 1 ліпеня 1932 г.—3.130 тыс.). Іншымі словамі, за апошнія два гады партыя колькасна вырасла на 69 проц. тады, як за пэрыяд ад XV да XVI зьезду партыя вырасла толькі на 42,2 проц., а за пэрыяд ад XIV да XV зьезду—усяго на 20,8 проц.

## Хто ўступіў у рады партыі?

У асноўным наша партыя за гэтыя гады расла ў горадзе за кошт лепшых ударнікаў, якія працуюць на вытворчасьці, у вёсцы—за кошт перадавых калгаснікаў. Аднак, ня ўсюды партыйныя арганізацыі праводзілі дакладны падбор уступаючых у партыю. Больш таго, некаторыя партарганізацыі яўна захапляліся пагоняй за колькасьцю, захапляліся „парадным“ бокам справы, прымалі да сьвят і г. д.

Трэба памятаць, як строга адносіўся Ленін да прыёму ў партыю, якія высокія патрабаваньні ён прад'яўляў да ўступаючых у партыю, якім сур'ёзьнейшым выпрабаваньнем ён лічыў праходжаньне кандыдацкага стажу.

„Нясумненна,—указваў Ленін,—што ў нас пастаянна лічацца за рабочых такія асобы, якія ніякай сур'ёзнай школы ў сэнсе буйнай прамысловасьці не прайшлі. Скрозь і ўсюды ў катэгорыю рабочых трапляюць самыя сапраўдныя дробныя буржуа, якія выпадкова і на самы кароткі тэрмін абярнуліся ў рабочых“. І Ленін прапанаваў пакінуць паўгадовы кандыдацкі стаж „толькі для тых рабочых, якія ня менш 10 год прабылі фактычна рабочымі ў буйных прамысловых прадпрыемствах“.

Ленінскія ўказаньні на неаднастайнасьць складу рабочае клясы захоўваюць сваё палітычнае значэньне і на сёньня.

Хіба ў нас ня бывае іншы раз так, што чалавека, які прапрацаваў два-тры месяцы ці нават год на прадпрыемстве, разглядаюць ужо як ганаровага пралетара, лёгка прымаюць у партыю, ня бачачы, што самы ўход некаторых на вытворчасьць зьяўляецца сваясаблівым манэўрам, каб лягчэй пралезьці ў партыю з кар'ерысцкімі шкурніцкімі мэтамі.

У свой час апазыцыя змазвала розьніцу паміж партыяй, як перадавой часткай рабочае клясы і ўсёй масай рабочых, прапагандавала растварэньне партыі ў рабочай клясе, выступала супроць чысткі. Партыя заўсёды давала рашучы адпор гэтым спробам, прызнаючы, што **„без пэрыядычнай чысткі ад хісткіх элемэнтаў партыя ня можа ўмацоўвацца“** (Сталін).

Яшчэ ў сакавіку 1922 году, калі партыя ў рэзультаце чысткі выключыла з сваіх радоў каля 200 тыс. чалавек, Ленін ў запісцы на імя тав. Молатава для пленуму ЦК пісаў:

„Калі ў нас ёсьць у партыі 300—400 тыс. членаў, дык і гэта колькасьць празьмерна, бо абсалютна ўсе даныя паказваюць на невыстарчальна падрыхтаваны ўзровень цяперашніх членаў партыі“.

## За высокі палітычны ўзровень

Гэта ўказаньне Леніна было зроблена ў самым пачатку адбудоўчага пэрыяду, калі значная частка рабочых была распылена і дэклясавана.

Нізкі палітычны ўзровень значнай часткі камуністаў прыводзіць і цяпер да таго, што часамі партыйцы ня здольны процістаяць клясаваму ворагу, асабліва ў вёсцы, пападаюць на вуду кулака. У нас ня мала членаў і кандыдатаў партыі, якія ня ведаюць праграмы і тактыкі партыі, якія палітычнанапісьменны і ня вучацца марксызму-ленінізму.

Нярэдка таварыш, па сваіх асабістых настроях бязумоўна адданы партыі і савецкай уладзе, можа на справе, як член партыі, прыносіць шкоду, нават не жадаючы гэтага, іменна ў рэзультаце слабай палітычнай падрыхтаванасьці, іменна таму, што ён ня ўмее яшчэ палітычна ўзначаліць у інтарэсах партыі, павесьці за сабою масы калгасьнікаў і беспартыйных рабочых. Тут мы часта маем справу фактычна ня з членам партыі, а толькі з таварышом, які спачувае ёй. А ў нас так спачуваючых сьпяшаюцца часамі прымаць у арганізацыю, не разумеючы, што ёсьць розьніца паміж таварышом, жадаючым дапамагаць партыі, і членам партыі, які павінен уладаць неабходнай палітычнай падрыхтоўкай, павінен умець павесьці за сабою беспартыйныя масы пад лёзунгам партыі, або пераводзяць у члены партыі з кандыдатаў таварышоў, якія яшчэ ня ўсвоілі праграму і тактыку партыі, яшчэ не навучыліся быць дысцыплінаванымі членамі партыі, змагацца за яе жалезную дысцыпліну. І гэта робіцца наперакор указаньню Леніна: **„Пакінуць у партыі толькі сьвядомых і шчыра адданых камунізму“.**

## На чым правяраецца кожны член і кандыдат партыі?

Кожны член і кандыдат партыі абавязан ведаць яе праграму, важнейшыя пастановы, абавязан праводзіць гэтыя пастановы ў жыцьцё, захоўваць жалезную партыйную дысцыпліну. **„Хто хоць колькі-небудзь аслабляе жалезную дысцыпліну партыі і пралетарыяту (асабліва за час яго дыктатуры), той фактычна дапамагае буржуазіі супроць пралетарыяту“** (Ленін).

На прадпрыемстве, апрача таго, кожны камуніст правяраецца па тым, як ён змагаецца за сацыялістычную працоўную дысцыпліну, супроць бракаробаў, гультаёў, лятуноў, па тым, як сам ён падае прыклад працоўнай дысцыпліны. Ці-ж мала ў нас членаў і кандыдатаў партыі, якія ня толькі не зьяўляюцца ўдарнікамі сваёй вытворчасьці, але, наадварот, плямяць назву камуніста прагуламі, рвацтвам і г. д.

У нявытворчых ячэйках найбольш магчыма шырокае скарыстаньне партыйнага становішча ў карысных мэтах: растраты, пратэкцыянізм, кар'еризм, бюракратычныя адносіны да мас. Тут часьцей за ўсё можна спаткаць сярод партыйцаў факты двурушніцтва, палітычнага і маральнага разлажэньня, перараджэньня, уплыву чужых элемэнтаў, парушэньня партыйнай дысцыпліны. Наплюйскія лёгкадумныя адносіны да выдаткаваньня дзяржаўных грошай і фондаў снабжэньня, раздуваньне штатаў, якое ўзмацняе бюракратычныя скажэньні, бяздушны бюракратызм, няўважлівыя адносіны да патрэб і запатрабаваньняў працоўных, „очковтирательство“,— па ўсіх праяўленьнях апартунізму і бюракратызму ў нашым дзяржаўным і гаспадарчым апараце моцна ўдарыць чыстка партыі.

У вёсцы кожны партыец будзе яшчэ правярацца па тым, як ён змагаецца за выкананьне дзяржаўных заданьняў, за выкананьне абавязацельстваў калгасу і аднаасобнікаў, па збожжазагатоўках, мясазагатоўках і г. д. Кожны партыец вёскі будзе правярацца па тым, як ён забясьпечвае ўплыў у калгасе, наколькі актыўна ён змагаецца з кулаком і падкулачнікам, як ён ахоўвае сацыялістычную грамадзкую ўласнасьць, наколькі актыўна ён прымае ўдзел у калгаснай вытворчасьці.

XVII партыйная канфэрэнцыя ўказала на няўхільнасьць у далейшым абвастрэньня клясавай барацьбы ў паасобныя моманты і асабліва на паасобных вучастках сацыялістычнай будоўлі, указала на „няўхільнасьць яшчэ на працягу доўгага часу пранікненьня чужых пралетарыяту клясавых уплываў у асяродзішча рабочых і нават у партыю“, падкрэсьліла ўсувязі з гэтым неабходнасьць умацаваньня пралетарскай дыктатуры і далейшага разгортваньня барацьбы з апартунізмам і асабліва з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Жыцьцё паказала ўсю важнасьць і сваячасовасьць гэтых указаньняў XVII партканфэрэнцыі.

Контррэвалюцыйныя спробы сабатажу збожжазагатовак, здрадніцкая шкодніцкая работа ў калгасах рэштак кулацтва не маглі-б дасягнуць ніякага посьпеху, калі-б ім не дапамагала на справе частка камуністаў, якія ашукваюць партыю. Толькі там, дзе шкодніцкую работу кулацтва ўзначальвалі ворагі партыі з партбілетам у кішэні яна давала пэўныя рэзультаты, часткова разлагала калгасы.

Чыстку членаў і кандыдатаў партыі трэба арганізаваць грунтоўна, сканцэнтраваць увагу на якасным складзе арганізацыі. Трэба пакінуць у партыі толькі тых, хто да канца адданы справе рабочай клясы, хто інтарэсы камунізму, інтарэсы партыі ставіць вышэй за ўсё.

## Чатыры запаведзі, чатыры патрабаваньні да кожнага члена і кандыдата партыі:

1. Будзь праўдзівым перад партыяй, будзь чэсны, не ганьбуй сваімі паводзінамі годнасьці камуніста!

2. Вядзі рашучую барацьбу з двурушнікамі, перараджэнцамі, ашуканцамі партыі. Двурушнікаў, перараджэнцаў, ашуканцаў—вон з партыі!

3. Будзь дысцыплінаваным членам партыі, вядзі пасьлядоўную барацьбу за яе лінію, пастановы і за яе жалезную дысцыпліну, за яе ленінскі ЦК. Хто хаця ў малейшай ступені хістае жалезную бальшавіцкую дысцыпліну, той грае на руку ворагам рабочай клясы, таму ня месца ў ленінскай партыі!

4. Ведай праграму і тактыку партыі, вучыся марксызму-ленінізму. Хто ня хоча працаваць над сабою, не павышае свой палітычны ўзровень, той ня можа быць членам камуністычнай партыі!

Вялікая ленінская партыя ўступіла ў другую пяцігодку. У абстаноўцы ўздыму нашай сацыялістычнай гаспадаркі і сусьветнага рэвалюцыйнага руху зноў правярае і ачышчае свае рады, каб яшчэ больш іх загартаваць, каб вышэй трымаць сьцяг Леніна.

Праверка радоў партыі яшчэ больш павысіць яе аднароднасьць і баяздольнасьць, умацуе яе сувязь з працоўнымі масамі, цясьней згуртуе рады партыі для барацьбы за выкананьне гістарычных задач другой пяцігодкі, за справу сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

**(З перадавога артыкулу ЦО „Праўды“).**

# Па-бальшавіцку рыхтавацца да веснавой сяўбы

## Выкрыць і ліквідаваць манэўры клясавага ворага, накіраваныя на зрыў падрыхтоўкі да веснавой сяўбы

Партыяй і ўрадам зараз цэнтральнай задачай пастаўлена **барацьба за павышэньне ўраджайнасьці ў сельскагаспадарчай вытворчасьці** на аснове ўкараненьня і ауладаньня вышэйшымі агратэхнікі. Тым больш, што **„задача павышэньня ўраджайнасьці набывае асаблівае актуальнае значэньне ва ўмовах БССР—рэспублікі галоўным чынам інтэнсыўных культур“** (З пастановы сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б.)

Барацьба за сваечасовую, высокаякасную і арганізаваную падрыхтоўку да сяўбы неадлучна зьвязана і з выкананьнем дзяржаўных плянаў загатовак. Бо чым хутчэй будзе выканана здача (продаж) збожжа дзяржаве, тым хутчэй калгасы закончаць стварэньне, ссыпку насенных і страхавых фондаў.

Нельга забываць і таго, што барацьба за павышэньне ўраджайнасьці, далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, падрыхтоўка і правядзеньне веснавой сяўбы будзе праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Рэшткі кулацтва і клясава-варожыя элемэнты будуць імкнуцца арганізаваць сабатаж і супраціўленьне справе барацьбы за сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

Пленум ЦК КП(б)Б, разглядзеўшы пытаньне аб разьвіцьці сельскай гаспадаркі і павышэньні ўраджайнасьці ў другой пяцігодцы, устанавіў наступныя мінімальныя заданьні па павышэньні ўраджайнасьці па БССР на 1933 год: збожжавых—8,5 *цэнтн*, бульбы—110 *цэнтн*, ільну—3 *цэнтн з га*; таксама ўстаноўлена плошча пасеву гатункавым насеньнем на 1933 год: збожжавых—23.000 *га*, ільну—8.000 *га*, бульбы—5.500 *га*.

Да складаньня вытворчых плянаў, укамплектаваньня сталых вытворчых брыгад, вылучэньня і падрыхтоўкі кадраў—брыгадзіраў з ліку лепшых ударнікаў-калгасьнікаў,—калгасы ўжо павінны прыступіць. Трэба арганізаваць работу калгаснай брыгады так, каб у ёй канцэнтравалася ўся сума канкрэтных мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці. Кожная брыгада ўжо павінна ведаць свой вытворчы вучастак, свае культуры, колькі цэнтнераў насеньня патрэбна на абсемяненьне вучастку, колькасьць ачысткі і адсартаваньня, мінэральнага ўгнаеньня, наяўнасьць (прыблізна) маючагася гною і тыя канкрэтныя мерапрыемствы, якія будуць ужыты на яе вучастку і якім чынам. **„Іменна калгасная брыгада будзе, галоўным чынам, вырашаць задачу ўздыму ўраджайнасьці“**,—так гаворыцца ў пастанове сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

Партыйныя ячэйкі павінны забясьпечыць сваім бальшавіцкім кіраўніцтвам, стаць на чале ініцыятывы арганізацыі сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж брыгадамі на лепшае захоўваньне конскай цягавай сілы, на лепшы рамонт і ўтрыманьне сродкаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, на лепшую падрыхтоўку на аснове агратэхнікі, да 4-й бальшавіцкай сяўбы.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на баявую падрыхтоўку трактарнага парку да вясны, на якасьць рамонту, на падрыхтоўку сельгасінвэнтару, адначасова змагаючыся за здаровую, працаздольную конскую цягавую сілу. Усялякая недаацэнка каня павінна рашуча выкарчоўвацца.

На аснове шырокай палітычна-масавай работы трэба ўцягнуць ў агранамічна-тэхнічную вучобу ня толькі шырокія масы-калгасьнікаў, але і працоўных аднаасобнікаў. Трэба растлумачыць на вопыце перадавых калгасаў і практыкі мінулага году кожнаму калгасьніку і калгасьніцы, што рост прыбыткаў, паляпшэньне іх дабрабыту залежыць ад іх саміх, ад колькасьці і якасьці працы, ад максымальнага павышэньня ўраджайнасьці сацыялістычнага поля.

Перад паляўнічымі таксама стаяць вялікія і адказныя задачы ў час веснавой сяўбы 1933 году—уключыцца ў барацьбу за высокаякасную падрыхтоўку да сяўбы, за асваеньне агратэхнікі, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Кожнае райтаварыства паляўнічых, кожная брыгада паляўнічых павінны зараз-жа скласьці дакладны плян удзелу ў 4-й бальшавіцкай сяўбе, распрацаваць і абгаварыць канкрэтныя мерапрыемствы па ўдзеле ў падрыхтоўцы і правядзеньні сяўбы. Вучасткі, якія маюцца пры райтаварыствах паляўнічых павінны быць паказальнымі ў справе падрыхтоўкі і правядзеньні сяўбы.

З гэтай вялікай і адказнай задачай паляўнічыя павінны справіцца з гонарам!

Арганізавана нанесьці сакрушальны ўдар па рэштках кулацтва, якое будзе спрабаваць арганізаваць сабатаж дырэктыў партыі аб павышэньні ўраджайнасьці, укараненьні агратэхнікі, увядзеньні севазвароту; выкрыць да канца шкодныя, яўна кулацкія разважаньні аб скарачэньні пасеўных плянаў, паслабленьня барацьбы за авалоданьне агратэхнікай; мабілізаваць усю ўвагу калгасьнікаў на барацьбу за максымальнае атрыманьне ўраджаю з сацыялістычных палёў, за высокаякасную падрыхтоўку глебы—такава задача.

Ні на хвіліну не павінна паслабляцца ўвага ў час падрыхтоўкі і правядзеньня сяўбы да аднаасобнага сэктару. Калгасы павінны аказаць агратэхдапамогу працоўным аднаасобнікам, арганізаваць дапамогу ў рамонце, снабжэньні сельскагаспадарчым інвэнтаром. Сваечасова павінны быць даведзены цьвёрдыя заданьні да кулацка-заможных гаспадарак і аб'яўлена рашучая барацьба сабатажу сяўбы з боку кулацка-заможнага элементу.

Толькі пры арганізаванай, сапраўды бальшавіцкай барацьбы партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый, кожнага камуніста, камсамольца, рабселькора, кожнай газэты з кулацтвам і яго агентурай ў радох партыі, з правымі і „левымі“ апартуністамі, з супраціўленьнем з боку адсталых мас укараненьню перадавой тэхнікі ў сельскую гаспадарку, будзе забясьпечана пасьпяховае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду па ўзьняцьці ўраджайнасьці, арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, сваячасовым і бальшавіцкім правядзеньні веснавой сяўбы ў 1-м годзе 2-й пяцігодкі.

**Сустрэнем веснавую сяўбу баявой, высокаякаснай падрыхтоўкай!**

**А. Астрэйка.**

# Пасіліць тэмпы пушнамехзагатовак

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне патрабуюць шырокага прытоку сродкаў і машын для будаўніцтва сацыялізму. Пушніна, мехсыравіна, якія адыгрываюць вялікую ролю ў народнай гаспадарцы і ідуць у вялікай колькасьці на экспарт, павінны прыцягнуць увагу ўсяго працоўнага насельніцтва.

Зараз нельга сабе ўявіць пушнамехзагатоўкі бяз шырокага ўдзелу ня толькі саміх паляўнічых, але і ўсяго працоўнага насельніцтва.

Магілеўскае кустовае райтаварыства паляўнічых у гэтай галіне, ня гледзячы на шэраг дадатных бакоў у рабоце, недаўлічыла ўмоў масавасьці ў барацьбе за плян, адсюль і недавыкананьне яго.

Першыя 3 кварталы і IV квартал 1932 году паказалі, што адсутнасьць штодзеннай масавай работы сярод калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў, недаўлік новых ускладненых умоў работы, адрыў ад калгасу і калгасьнікаў, недастатковае рэагаваньне на зрыўшчыкаў контрактацыйных дагавароў—прывялі загатоўчую праграму Магілеўскага кустовага райт-ва паляўнічых да зрыву.

Так, па сыстэме паляўнічай каапэрацыі плян па пушніне выканан на 70 проц., па мехсыравіне на 95 проц. (Магілеў па пушніне плян выканаў на 111 проц., мехсыравіне—150 проц., Бялынічы па пушніне—48 проц., мехсыравіне 24 проц., Чавусы—па пушніне—32 проц., мехсыравіна 60 проц.), а па сыстэме Белпушніны 92,2 проц. пушніны і 66,6 проц. мехсыравіны.

Ці могуць гэтыя лічбы задаволіць нас?—Ні ў якім разе. Мы ўступаем у першы квартал 1933 году з недавыкананьнем праграмы пушнамехавых загатовак. Вопыт мінулых загатоўчых сэзонаў неабходна поўнасьцю ўлічыць, каб не паўтарыць памылак, і ўся загатоўчая кампанія, у прыватнасьці І-ы квартал 1933 г., павінны будавацца на базе цеснай увязкі загатоўчых арганізацый з калгасам і калгасьнікам, прымаючы сталы ўдзел у савецкіх і калгасных базарах, унядраючы ў працу сацыялістычныя мэтады работы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Толькі пры гэтых умовах мы забясьпечым поўнае выкананьне праграмы загатовак 1-га кварталу 1933 г. Але ня ўсе паляўнічыя ячэйкі ўразумелі важнасьць выкананьня і перавыкананьня загатоўчых плянаў 1932 году. Паказаныя проценты, асабліва райаддзяленьняў, сьведчаць аб тым, што шмат якія ячэйкі па апартуністычнаму аднесьліся да сваіх абавязкаў, недаацанілі важнасьць выкананьня плянаў загатоўкі. У гэтым вінавата і райпраўленьне, якое ня здолела поўнасьцю забясьпечыць выкананьне пляну.

Інакш і нельга разглядаць працу Гаранскай і В.-Бялевіцкай ячэек, як стаўкай па самацёк, няўменьнем арганізаваць загатоўчую кампанію (выканалі плян менш як на 50 проц.).

Але поруч з адстаючымі ячэйкамі ёсьць і такія, якія свае заданьні перавыканалі, як Таранаўская, Краснапольская і Княжыцкая.

Чым тлумачыцца зусім нездавальняючае выкананьне пляну загатовак? Перш за ўсё, гэта недавыкананьне тлумачыцца абыякавымі адносінамі да загатовак, абломаўскімі тэмпамі работы, адсутнасьцю масава-растлумачальнай работы і спасыланьнем на аб'ектыўныя прычыны ўсіх загатоўчых арганізацый пушнамехсыравіны Магілеўшчыны.

Перабудова структуры паляўнічай каапэрацыі павышае сабою прамысловы і ідэйны рост паляўнічых. Існаваўшая дагэтуль ячэйка ня мела тых магчымасьцяй для сваёй работы, якія зараз, у сувязі з рэарганізацыяй яе па тэрытарыяльнаму прынцыпу ў вытворча-прамысловую брыгаду, яна будзе мець. Між тым, Магілеўскае райтаварыства паляўнічых яшчэ не прыступіла да перабудовы работы. Неабходна ў найкарацейшы час прыступіць да практычнага ажыцьцяўленьня пастановы паляўнічага камітэту пры НКЗГБ.

Поруч з перабудовай структуры паляўнічай каапэрацыі мяняюцца і спосабы вядзеньня загатоўчай работы. Калі мы зараз вялі загатоўкі выключна па заключаных дагаварох з асобнымі паляўнічымі і без кантролю, дык зараз ужо сама брыгада становіць сабою кантроль за ходам выкананьня пляну загатовак ўнутры сябе, даводзячы яго да кожнага паляўнічага паасобку. Брыгады павінны заключыць дагавары з загатоўчымі арганізацыямі.

Работу па заключэньні дагавароў трэба праводзіць пры масавым удзеле паляўнічых і ні ў якім разе ня імкнуцца толькі атрымаць подпіс брыгадзіра ці асобнага паляўнічага. У гэтай галіне работы трэба асабліва адзначыць работу Белпушніны. Нельга заключаць дагавора з паляўнічым, які яшчэ не прашоў перарэгістрацыі, а то па справе мы зможам заключыць дагавор з клясава-варожым элемэнтам, што і атрымалася ў Княжыцкім і Вішоўскім сельсаветах. Заключаны дагавары з браканьерамі і кулакамі Макарэнкам Антонам і Мікушкіным Максімам. Правільная работа дасьць магчымасьць пазбавіцца ад ажыятажу ў самой рабоце па заключэньні дагавароў.

Зусім зразумела, што такая форма работы патрабуе, каб у кожным калгасе (калгасная брыгада) працаваў адзін загатавіцель. Пры ўсім гэтым неабходна сабраць усю пушніну, якая маецца ў паляўнічых, пры гэтым праводзячы масава-растлумачальную работу па неабходнасьці здачы дзяржаве ўсёй пушна-мехавой сыравіны. Трэба правесьці рашучую барацьбу з спэкулянтамі і перакупшчыкамі. Усім загатоўчым арганізацыям неабходна прыняць самы шырокі ўдзел у савецкіх і калгасных базарах. Трэба дабіцца таго, каб Белпушніна і Саюз Паляўнічых арганізоўвалі свае ларкі на савецкіх базарах.

Улічваючы вялікую колькасьць паляўнічых па Магілеўскім кустовым райтаварыстве паляўнічых, заключэньне дагавароў праходзіць вельмі маруднымі тэмпамі. На сёнешні дзень заключана дагавароў па пушніне на 3012 руб. і мехсыравіне на 1659 руб., а па сыстэме Белпушніны на 4000 руб. па пушніне і на 1600 руб. па мехсыравіне, што не складае нават 20 проц. заданьня.

Важнасьць і народна-гаспадарчае значэньне пушна-мехсыравіны павінны ўсьвядоміць усе партыйныя і савецкія арганізацыі. Парт'ячэйкі, прафарганізацыі, сельсаветы, школы і інш. арганізацыі Магілеўшчыны павінны неадкладна разгарнуць работу па мабілізацыі грамадзкай думкі вакол пушмехзагатовак, улічваючы тыя карэнныя зьмены ў формах і мэтадах работы, якія зараз праходзяць па сыстэме паляўнічай каапэрацыі, аказаўшы практычную дапамогу.

# 1374—вынік паўтарагадовай работы

Ажыццяўляючы дырэктывы партыі і ўраду, праўленьне Магілеўскагага т-ва паляўнічых з 1 красавіка 1931 г. прыступіла да арганізацыі трусагадоўлі. Для разьвядзеньня трусоў т-ва паляўнічых набыло ў аднаго з сваіх членаў 4 самкі, потым да 4 мая было дадаткова набыта яшчэ 16 самак і 11 самцоў. У сучасны момант налічваецца 829 трусоў; акрамя гэтага ў пачатку 1932 г. было забіта і здадзена на мяса 145 шт.; у пэрыяд верасьня—сьнежня г. г. было прададзена вайсковым, дзяржаўным і каапэрацыйным установам—400 шт., г. зн. за паўтары гады ад 19 самак стала стада ў 1374 шт.

З маючагася зараз стада 829 шт. мяркуецца забіць і здаць на мяса 329 штук, а астатнія 500 шт. заставіць у пітомніку для далейшага разьвіцьця трусагадоўлі (згодна пляну Белкахотсаюзу патрабуецца на 1 студзеня 1933 г. 400 самак і 50 самцоў, а праўленьне высунула сустрэчны плян у 420 самак і 80 самцоў).

Для пракорму азначанага стада т-ва паляўнічых атрымала ад Магілеўскага гарсавету вучастак зямлі ў колькасьці 19,36 *га*, з якой ворнай зямлі—16,93 *га*, і няўдобнай 2,43 *га* і ад Магілеўскага райвыканкому атрымана 6 *га* заліўной сенажаці.

Ня маючы ні мёртвага, ні жывога с.-г. інвэнтару, але маючы арганізаваную масу паляўнічых і добрасумленныя іх адносіны да грамадзкай працы—гэта дало магчымасьць т-ву паляўнічых на працягу паўтара месяца апрацаваць і абсеяніць увесь вучастак, скасіць і зьвезьці ўсё сена з сенажаці. Кожны паляўнічы лічыў сваім абавязкам дапамагчы т-ву паляўнічых, каб даць магчымасьць яму выйсьці з цяжкага становішча і прыходзіў дабраахвотна на суботнікі з канём, або без каня і працаваў на працягу 2—3 дзён. Гэтае мерапрыемства праведзена на аснове пастаноў агульных сходаў ячэек паляўнічых.

Ініцыятарамі гэтых мерапрыемстваў зьяўляліся калгасьнікі, члены таварыства (т. т. **Бавін, Путвін, Шаўцоў і Фёдараў**). Бачачы, што райтаварыства ня мае для засеву насеньня—кожны паляўнічы прывозіў з сабою і здаваў т-ву ад 2 да 10 *кг* бульбы, аўсу і інш. і такім чынам агульнымі сіламі увесь вучастак быў апрацаваны і засеяны.

У выніку т-ва атрымала ўраджаю карняплодаў: морквы—45,08 *цнт*, буракоў—31,68 *цнт*, рэдзькі—14,08 *цнт*, турнэпсу—23,04 *цнт*, бручкі—8,64 *цнт*, капусты—14,4 *цнт*, бульбы—112,32 *цнт*, усяго 250,56 *цнт*; акрамя гэтага было зьнята аўсу з вікай—12,5 *цнт*, ячменю—13,4 *цнт*, гароху—3,36 *цнт*, грэчкі—2,82 *цнт*, саломы атрымана—17,5 *цнт* і сена з заліўной сенажаці 200 *цнт*.

Кармоў, менавіта, карняплодаў і сена хопіць для трусагадоўчай гаспадаркі да новага ўраджаю, а з аўсом і ячменем справа абстаіць горш.

Праўленьню неабходна своечасова абмеркаваць пытаньне аб тэрміновым забесьпячэньні гаспадаркі неабходнымі для трусагадоўчай гаспадаркі кармамі.

Для пракармленьня ўсяго стада на працягу 1933 году, лічачы 500 шт. дарослых і 4200 штук маладняка, а таксама для 4 кароў і 2 коняй, якія абслугоўваюць трусоў, патрэбна 521, 2 *цнт* сена, 416 *цнт* карняплодаў, 171 *цнт* аўсу, альбо ячменю і 124 *цнт* мяккага корму. Частку азначанай колькасьці кармоў райтаварыства мяркуе атрымаць ад апрацоўкі свайго вучастку ворнай зямлі і сенажаці, а частку, з-за адсутнасьці дастатковай колькасьці зямлі, мяркуецца набыць шляхам заключэньня ўмовы з адным з калгасаў раёну на абсемяненьне некалькіх *га* ячменем альбо аўсом.

Вялікую работу т-ва паляўнічых правяло па будаўніцтве. Ня маючы матар'яльнай дапамогі з боку Белкахотсаюзу, ня маючы нават нарадаў на будаўнічыя матар'ялы,—усё-ж змагло пабудаваць за некалькі месяцаў 3 хлявы, разьмерам 13 на 10 *м* для заховы трусоў ад холаду, агульны хлеў, разьмерам 55,55 *м* для жывёлы, цяплушку, разьмерам 8,45 *м* для рабочых і варкі харчу.

Па пляне на 1933 г. мяркуецца пабудаваць будынак для агульнага жыцьця рабочых, сталоўку, клюб і новую сыстэму групавых клетак, па тыпе паказальнай трусагадоўчай гаспадаркі СССР Клёнава-Чагадаева.

Усю гэту працу магчыма было правесьці толькі пры ўмелым і правільным кіраўніцтве з боку праўленьня райтаварыства і пры надзвычайнай энэргіі і энтузіязьме работнікаў гаспадаркі і паляўнічых.

Пленум праўленьня Магілеўскага т-ва паляўнічых ад 24-XII—1932 г. ацаніў работу трусагадоўчай гаспадаркі, вызначыўшы найлепшых ударнікаў і пастанавіў прэміяваць іх месячным акладам заробку.

Прэміяваны: старшыня праўленьня **А. Хрушчоў**, дырэктар трусагадоўчай гаспадаркі **Кіартано**, ст. трусавод **П. Сіянкова** і рабочыя: **В. Цухман, М. Цежыкава** і **Т. Лубінец**.

Перад т-вам паляўнічых стаіць баявая задача—ўсіліць яшчэ больш тэмпы на разьвядзеньне трусоў і гэтым самым забясьпечыць выкананьне пляну 1933 г., г. зн. выгадаваць 4200 штук маладняка і захаваць 500 штук дарослых.



Маладняк трусоў у выгуле. Віцебская трусаводная ферма.

## Перарэгістрацыю праводзяць пры закрытых дзьвярох

Надаючы надзвычай вялікае палітычнае значэньне перарэгістрацыі паляўнічых, трэба, перш за ўсё, памятаць, што яна зьвязана з дакладнай праверкай і выяўленьнем сацыяльна-варожага нам элемэнту і матар'яльным умацаваньнем усёй сыстэмы паляўнічых. Побач з гэтым баявая задача—разгарнуць работу па вярбоўцы новых членаў з рабочых калгасьнікаў, працоўных аднаасобнікаў у саюз паляўнічых.

Маючы вопыт у правядзеньні гэтай работы і ўлічваючы тыя памылкі, якія мелі месца ў мінулым годзе, перарэгістрацыю на 1933 год патрэбна нам правесьці больш арганізавана і ў значна карацейшы тэрмін, чаго не даўлічыла Магілеўскае райтаварыства: і на сёнешні дзень яшчэ ня перарэгістравана і палова паляўнічых.

Ні ў якім разе нельга дапусьціць, каб гэта работа расьцягнулася на ўвесь год, праходзіла толькі ў раённым цэнтры бяз сувязі і абгаварэньня з шырокімі працоўнымі масамі і, у першую чаргу, самімі паляўнічымі. Гэту важнейшую работу Магілеўскае райтаварыства пусьціла на самацёк.

Ня гледзячы на тое, што Белкахотсаюзам было дана ўказаньне, каб перарэгістрацыю рабіць непасрэдна ў сельсаветах, на паляўнічых сходах у прысутнасьці прадстаўнікоў партыйных і савецкіх арганізацый, і пры шырокім удзеле рабочых, калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў з тым, каб не дапусьціць ніводнага кулацкага, крымінальнага і інш. клясава-варожага нам элемэнту, а таксама злосных браканьераў. Магілеўскае райтаварыства гэтай дырэктывы ня выконвае і перарэгістрацыю праводзіць у габінэце старшыні праўленьня райтаварыства.

## Лепшыя з лепшых

Хто ня ведае **Ярмакова Сьцяпана** з вёскі Вільчыцы, Грабянеўскага сельсавету. Гэта самы лепшы паляўнічы, які ўмее добра весьці паляваньне і ведае нораў кожнага зьвера. **У 1932 годзе ён заключыў дагавор на 50 р., а выканаў яго на 500 р.**

Гэта адзін з тых паляўнічых, які яскрава ўсьвядоміў важнасьць пушна-мехзагатовак і аддае ўсю сваю сілу і энэргію на здабыцьце пушнога зьвера—дарагой валюты, патрэбнай для дзяржавы, якая будуе сацыялізм.

На 1933 год ён таксама **заключыў дагавор, які на 27|XII-32 г. ужо выканаў на 127 проц. і працягвае далей здабычу зьвера.**

Другі паляўнічы—**Зайцаў Адам** з вёскі Зімніцы, Шчэжарскага сельсавету таксама не адстае ад Ярмакова. Ён заключыў дагавор на 300 кратоў, а здаў на сёнешні дзень 1.310 кратоў.

Гэта самыя лепшыя паляўнічыя - ўдарнікі Магілеўскага раёну, работа якіх ацэнена па заслугах і яны прадстаўлены да прэміяваньня.

## Панфіловіч—лепшы паляўнічы

**Панфіловіч Станіслаў**—стары паляўнічы. Яму ўжо 72 гады, але ў яго жылах цячэ маладая кроў.

Панфіловіч адзін з лепшых паляўнічых Магілеўшчыны. Ён ня толькі ўмее верна ўзяць на мушку зьвера, але і ўмее будаваць сваю паляўнічую гаспадарку. Ён ведае і тое, калі лепш за ўсё здабываць зьвера і птушку, каб яна як мага больш прынесла карысьці нашай гаспадарцы.

Пры заключэньні дагавору ў час перарэгістрацыі ён горда заяўляе: „Як-та, каб я зьвера не здабыў? Як гэта можна, каб я дагавору ня выканаў, слова ня стрымаў? 72 гады жыў, а гэтага са мной ніколі ня было. Я свой дагавор выканаю на ўсе 100 проц.“. І сапраўды, **Панфіловіч свой дагавор за 1932 год выканаў на 136 проц.**

Такіх паляўнічых, як **Панфіловіч**, які выконвае свае абавязкі перад пралетарскай дзяржавай, неабходна прэміяваць, бо ён гэтага заслужыў. Зараз Панфіловіч райтаварыствам паляўнічых, як лепшы ўдарнік, уключан у сьпіс Белкахотсаюза для прэміяваньня.

## Аднавіць працу сэкцыі сабакагадоўлі

Ні ў адной галіне паляўнічай гаспадаркі няма такога адставаньня, як у сабакагадоўлі. Як відаць, некаторыя прытрымліваюцца тэй думкі, што справа сабакагадоўлі можа сама разьвівацца і адсюль—па Магілеўскім раёне толькі 4 паляўнічых маюць кроўных сабак. У нас ёсьць усе магчымасьці, каб кіраваць, разьвіваць, папулярызаваць сярод паляўнічых мас сабакагадоўлю, завадзкога паляўнічага сабаку.

Адным з першых такіх магчымасьцяй—паляўнічы друк, выстаўкі і спробы паляўнічых сабак. У нас ёсьць спэцыялісты па гэтай справе. Але няма самага малога. Няма ў нас пры райтаварыстве сэкцыі сабакагадоўлі, а калі і ёсьць, дык яна сьпіць, непрацаздольная.

Гэту сьпячку трэба аднесьці выключна да арганізатарскіх здольнасьцяй праўленьня райтаварыства. Паляўнічы друк не адзін раз завастраў увагу на гэтым пытаньні, не адзін раз Белкахотсаюз пускаў дырэктывы па раёнах, але справа ня рухаецца з месца.

Зараз, калі Белкахотсаюзам зацьверджана і разаслана па мясцох агульнае палажэньне аб сэкцыі сабакагадоўлі пры райтаварыствах, Магілеўскаму т-ву паляўнічых неабходна аднавіць работу сэкцыі сабакагадоўлі, забясьпечыўшы сэкцыю працаздольным кіраўніком, бо цяперашні старшыня яе нічога ня робіць.



Гончая сабака „Зайка" паляўнічага Вавілава абнюхвае здабычу.

# БОБР НА ЛАБЖАНЦЫ

*(Клімавіцкі раён)*

Вузкая, але глыбокая і мнагаводная Лабжанка свой шлях пралажыла па нізіне, якая цягнецца праз Судзілаўскі, Раднянскі, Лазоўскі, Ціманаўскі і Гразевіцкі сельсаветы, Клімавіцкага раёну.

На большасці свайго шляху рэчка Лабжанка мае забалочаныя, тарфяністыя—маладаступныя чалавеку і дамашняй жывёле берагі. Уся нізіна Лабжанкі ад яе вытокаў і да ўпадзеньня ў Сож пакрыта густымі зарасьнікамі алешніку, лазы, вярбы.

Бобр на Лабжанцы—стары знаёмы мясцовага насельніцтва. У дарэвалюцыйныя часы ахоўваў бабра толькі яго ўласны інстынкт. Памешчык ганарыўся прысутнасьцю ў яго маёнтку баброў; бобр павышаў на некалькі рублёў кожную дзесяціну памешчыцкай зямлі; бобр працаваў для свайго пана, пан багацеў, шырыўся, наступаў на бабра, а бобр прымушан быў адступаць.

Рэчка Лабжанка з шматлікімі гнездаваньнямі баброў прадстаўляе асаблівы інтарэс таму, што бобр тут праяўляе тэндэнцыю намнажацца.

Пасьля рэвалюцыі бобр упяршыню зьявіўся на Лабжанцы ў 1922 годзе. Паляўнічай гаспадаркі ў тыя гады ня было. Мясцовыя паляўнічыя з кулакоў і з усялякага „цёмнага“ элементу кінуліся на бабра і пачалі яго зьнішчаць. Перш Гомельскія губэрскія, а затым і цэнтральныя арганізацыі Беларусі ўжылі цэлы шэраг мерапрыемстваў па ахове бабра на Лабжанцы. У выніку ў 1926 годзе Лабжанка была абвешчана бабровым запаведнікам. Па сутнасьці гэты пэрыяд і зьяўляецца пераломным у жыцьці бабровых калёній на Лабжанцы. З 1926 году крывая размнажэньня баброў на Лабжанцы цьвёрда пашла ўверх—гэта было неаднаразова канстатавана праф. Федзюшыным і іншымі спэцыялістамі.

На сёнешні дзень па Лабжанцы ад Сожы да Родні мы маем да 30 сямей баброў пры 16 хатках. У некаторых хатках жыве да 6—7 штук, гэта значыць, што па Лабжанцы павінна быць прыблізна да 70 шт. баброў.

Цэнтр гняздаваньня баброў па Лабжанцы—Гайкаўка—возера каля вёскі Гайкаўка, Лазовіцкага сельсавету. У зарасьніках Гайкаўкі апрача нор і старых надземных хат, ёсьць новыя хаты, пабудаваныя ў 1932 годзе. Побач з гэтым, вакол кожнай хаты, у кожным кутку Гайкаўкі бачым сьвежую работу бабра.

Устаноўлена, між іншым, што Лабжанскія бабры высока-пладавітыя. Напрыклад, вясной 1932 году знайшлі шмат памётаў проста на зямлі*),—у якіх было па 3—4 маладых. У адным гнязьдзе было 5 штук маладых.



Адна з новых бабровых хатак у урочышчы „Гайкаўка“, на р. Лабжанка, Клімавіцкага раёну

У Гайкаўцы бабра ахоўваюць лепш, чым у другіх мясцох, ня трывожаць яго. Часта можна бачыць з плаціны, як бобр плыве па возеры. Гайкаўскі бобр нагогул не надта баіцца чалавека. Кожная Гайкаўская жанчына можа расказаць цэлую гісторыю, як яе напужаў бобр, калі яна хадзіла на рэчку па ваду, або паласкаць бялізну.

Бобр на Лабжанцы ахоўваецца, але для яго далёка намі ня ўсё зроблена. Трэба абвясьціць па Лабжанцы бабровы заказьнік ад Сожа да Родні. Запаведнік трэба абсталяваць знадворна: паказаць мяжу, зрабіць надпісы, правесьці работу сярод мясцовага насельніцтва і паляўнічых, папулярызаваць мэты запаведніка. Трэба паставіць вартаўнікоў, спыніць высечку лесу і кустоў чалавекам у запаведніку і, у першую чаргу, у раёнах гняздаваньняў баброў. У некаторых мясцох трэба забараніць веснавую пасьбу жывёлы кала рэчкі, бо мінулаю вясною былі выпадкі, калі коні капытамі падушылі маладых бабранят.

Апрача ўсяго іншага, Клімавіцкі раён ужо больш году выдзелен у лік 10 раёнаў па СССР для праводзеньня вопытна-паказальнай работы па культурна-бытавому абслугоўваньню працоўнага насельніцтва. Цэлы шэраг цэнтральных арганізацый БССР разгарнулі ў раёне належную работу. Белкахотсаюз 7 месяцаў аб гэтым ведае таксама. Абяцалі ня раз прыслаць у Клімавічы спэцыяльнага чалавека, які дапамог-бы паляўнічай арганізацыі паставіць на належную ўзорную вышыню паляўнічую гаспадарку. Але прайшло больш году, а Белкахотсаюзам у Клімавіцкім раёне нічога ня зроблена. Трэба спадзявацца, што ахотавед Белкахотсаюзу дапаможа арганізаваць паляўнічую гаспадарку ў Клімаўшчыне так, каб яна была ўзорнай.

У першую чаргу трэба заняцца арганізацыяй заказьнікаў і бабровага запаведніка. У агульнай сыстэме культурна-бытавога абслугоўваньня працоўнага насельніцтва Клімавіцкага раёну павінна заняць належнае месца работа кіруючых органаў паляўнічай арганізацыі.

Сёньня бобр—частка нашай паляўнічай гаспадаркі і мы павінны ўсё зрабіць, каб дапамагчы бабру працягваць пасьпяховае размнажэньне. **І. Крыпец.**

---

*) Высокая вада прымусіла баброў часова пакінуць хаткі.



Адна з самых старых бабровых хатак у урочышчы „Гайкаўка“, на р. Лабжанка, Клімавіцкага раёну

# БОБР У ЧАЧЭРСКІМ РАЕНЕ І ЯГО АХОВА

У Чачэрскім раёне з даўніх часоў на ўзьбярэжжы ракі Сож жыве бобр. Асноўны раён жыцьця—рака Сож (ніжэй м. Чачэрск) з прытокамі дробных рэчак, як Крыс, Ліпа і інш.

У рэчцы Крыса трэба меркаваць ёсьць пара, ці болей, сямей бабра. Аб яго прысутнасьці сьцьвярджаюць усе рыбакі. Сож у гэтай мясцовасьці я добра не бачыў, але ёсьць яго норы і трэба думаць, што бабры ёсьць.



Вурочышча „Гайкаўка“ на р. Лабжанка, Клімавіцкага раёну. Сьвежая работа баброў (дрэва павалена ў сьнежні м-цы 1932 г.)

Рака Крыс зьяўляецца паўночным раёнам бабра (бяручы па р. Сож). Паўднёвы раён — вусьце р. Ліпа і ўгару ад яго па р. Сож кілёмэтраў на 6 (да р. Быстрык). Па ўсёй гэтай адлегласьці па правым беразе р. Сож лес, а на левым—луг, пакрыты зарасьнікамі лазы і вербалозу.

У гэтых мясцох бобра шмат, пэўна колькі не вядома, бо няма спэца падлічыць. Бобр тут жыве ў норах па затоках. Лазы і вербалозу ў вурочышчы Сьвенча шмат, а ў Прыборы ёсьць зарасьнікі маладога асьніку. Кара гэтых парод ідзе на харчаваньне бабру і можна тут бачыць шмат падрэзаных асінак.

Вурочышча Сьвенча і Прыбор лічацца запаведнікам, але яго межаў і зараз дакладна паляўнічыя ня ведаюць. Справа ў самім запаведніку пастаўлена дрэнна і на яго не зварачвае ніякай увагі Чачэрскі саюз паляўнічых. Месца ў запапедніку спрыяючае для бабра і водаплаваючай дзічы.

Гэты запаведнік ахоўваюць два члены Шапатовіцкай ячэйкі паляўнічых: Драбышэўскі І. С. і Драбышэўскі М. Абодва гэтыя „вартаўнікі“ толькі ловяць рыбу ды вядуць паляваньне ў сваім запаведніку, бо „бобр стрэлу не баіцца“,—кажуць яны. Гледзячы на варту вядуць паляваньне і іншыя паляўнічыя, як Драбышэўскі Мікола і Васіль.

Абодва—вартаўнікі запаведніка зусім не актыўныя паляўнічыя, і трэба дацца дзіву чаму яны апынуліся на пасадзе выхаваўцаў баброў. Мо' таму, што члены Чачэрскага райтаварыства паляўнічых даволі часта гасьцююць у Драбышэўскіх, асабліва Жалкоўскі.

Як ні-як, а за бабром у запаведніку Сьвенча догляду няма і ці жыве бобр у ім, ці куды-небудзь пераходзіць невядома. Я маю факты, што бобр выходзіць з запаведніку.

Так, у часе веснавога разводзьдзя 1931 г. да вёскі Шапатовічы прыгнала лёдам двух баброў. Адзін з іх уцёк, другога злавілі. Гэта была цяжарная самка. Яе патрымалі дні тры, а потым па загаду з раёну выпусьцілі... у белы сьвет.

Другі факт—сёлета, у часе паляваньня на качак з ганчаком я выпадкова трапіў на бабра і знайшоў потым 12 пар у мясцовасьці Ліпкі, на старым Сожы (супроць вёскі Шапатовічы).

У Ліпках ахоты няма, як няма яе і ў Крысу і лазу сякуць, што бязумоўна шкодзіць бабру. Факт, што бобр маецца, але яго гадоўля ідзе самацёкам, няма гаспадарчага вока ў запаведніку. У свой час я пісаў пра гэты запаведнік, але ў Чачэрскім раёне ня выпісваюць і ня чытаюць часопісі „Паляўнічы Беларусі“, а таму, усе допісы пра Чачэрскі раён застаюцца непачутымі.

Зараз пытаньне аб запаведніку, дзе жыве такі рэдкі і каштоўны зьвер я ўзьнімаю зноў.

Я ўношу наступныя прапановы:

а) Белкахотсаюзу даць дырэктыву Чачэрскаму райтаварыству паляўнічых аб арганізацыі добрай працы запаведніка;

б) даручыць справу аховы запаведніка сумленным і выпрабаваным паляўнічым;

в) забясьпечыць бюро Шапатовіцкай ячэйкі паляўнічых самымі лепшымі паляўнічымі;

г) лева-бярэжжа ракі Сожу, пачынаючы ад вёскі Сябровічы і да Прыборы на поўдні (мяжа запаведніку) і правы бераг ад хутара Горы да вурочышча Сьвенча зрабіць прыпісной паляўнічай гаспадаркай Шапатовіцкай ячэйкі паляўнічых;

д) узмацніць і карэнным чынам перабудаваць работу існуючых бабровых заказьнікаў, зьняць з работы вартаўнікоў.

Гэтыя мерапрыемствы дадуць магчымасьць правільна павесьці бабровую гаспадарку і дадуць магчымасьць бабру вольна пасяляцца ў падыходзячых для яго мясцох.

**В. Караткевіч**



Вурочышча „Гайкаўка“ на р. Лабжанка, Клімавіцкага раёну. 48-мі сантымэтровае дрэва, паваленае бабрамі

**Анат. Шустрых**

# Вечарам зьбіраліся на сход

*(Запіскі паляўнічага)*

Здаровае зімовае раньне. Пах хваёвай смалы. Нейкая асаблівая пявучая цішыня. Стаяць высокія танклявыя хвоі з белымі шапкамі сьнегу, а вецер ані шалахне. Адно чутны свае крокі ў вушах ды зрэдку дзяцел застукае па суку ці запішчыць дзіка сініца.

Мне весела было і прыемна ў лесе. Куды ні глянь—белая далячыня. Трошка панурыўшы голаву глядзеў сабе пад ногі.

— Ты чаго зажурыўся, Трошка?—зусім нечакана для яго спытаў я.

— Ат, ведаеш, усяляк бывае, думка такая прышла. Шмат непаладкаў, вось і задумаўся. Я іх-бы гэтых... да чорта...

— Каго гэта ты так лаеш?

— Каго, каго? Есьць каго. Падлюга Мацейчык, драпежнік, колькі ён псоты нарабіў, а з ім яшчэ цацкаюцца. Пасьмейваецца толькі... Ды я яго... падкулачнік, за каржак ды пад суд...

— Дык, што-ж, сёньня ўвечары паставім пытаньне на сходзе, пагаворым, абмяркуем,—заўважыў я.

З-за гутаркі мы і не заўважалі як ганчакі гналі шарака. Куляючыся, паклаўшы вушы на сьпіну бег на цянькі ў лес. Я раней заўважыў шарака і ўлісьціў яму з свае дубальтоўкі. Аказалася папаў ня трапна, па нагах. Шарак кульнуўся і пабег падкульгваючы. Сабакі не выпускалі яго з свайго нагляду. Пабег і я, каб загарадзіць дарогу. І якое зло ўзяло, калі другі раз не атрымалася стрэлу, асечка. Шарак схаваўся ў кустох.

Мы падышлі да хмызьняку. Тузік вынырнуў як з-пад зямлі і цягне ў зубах з перабітаю нагою зайца. Па сьнягу скрозь была відна крывавая сьцежка. Я зарадаваўся, палашчыў сабаку.

— Залаты наш Тузік,—жыва сказаў Трошка,—гэта дарагая для паляўнічага сабака.

Пад поўдня зморaныя хадою я з Трошкай вярталіся дамоў. Мелі 4 шаракі і 8 штук вавёрак. І гэта добра. Бывае, што ўвесь дзень правандзыгаеш і прыдзеш дахаты з пустымі рукамі.

* * *

Вечарам зьбіраліся на сход паляўнічыя. Адлега. Камячыўся пад нагамі сьнег. Цярусіла зьлёгку імгла. Ацякаў па твару здаровы вецер, чапляўся за платы і хаты, прыцішаў сваю плынь.

— Ці праўда Сымон, што ты замест зайца ў сабаку папаў? А, што гэта, Тодар, кажа, што табе воўк рулю ў стрэльбе сагнуў?

Жартавалі, сьмяяліся паляўнічыя. Сымон Гусак аскірзоўваўся, злаваў і сярдзіта сплёўваў у кут.

— Адчапецеся, прысталі як смала да старога чалавека,—заступаўся я.

Тым часам, неўзабаве адчынілі сход. Пытаньні на павестцы дню былі толькі два: вынікі работы ячэйкі паляўнічых у першую пяцігодку і задачы другой пяцігодкі, потым аб перабудове паляўнічых арганізацый.

Сход праходзіў жыва. Андрэй Крукаў прадстаўнік з Ахотсаюзу толькі адзін дзень пабыў у вёсцы Прысынкі, але пасьпеў не з адным паляўнічым пагутарыць, увайсьці ў курс справы. Вось таму называючы прозьвішчы і факты Крукаў біў так метка.

— І адкуль гэта ён усё так ведае,—пацісқалі плячыма некаторыя паляўнічыя.

— Адкуль? Ён-жа на гэтым ужо напэўна і зуб зьеў і мабыць партыйны яшчэ,—заўважыў Трошка.

— Маладзец. Дзельна гаварыў.

Спрэчкі таксама праходзілі рупна. Крытыкавалі, падводзілі вынікі сваёй работы, гаварылі пра перабудову ячэек у брыгады, пра перарэгістрацыю, спрачаліся. Трошка таксама ня ўседзеў, выказаў усё, што нібы чарвяк смактала ў грудзёх, рупела.

Андрэй з увагаю выслухоўваў кожнае пытаньне, кожную скаргу, круціў у руках кавалачак паперы, штосьці запісваў. Сход скончыўся позна.

Трошка павясялеў, што былі наведзены парадкі, выключаны з шэрагаў паляўнічых браканьер Мацейчык, цьвёрдазаданьнік Яўхім Серадзюк. Ды ня толькі выключаны, сход пастанавіў справу аб Мацейчыку перадаць у судовыя органы. Гэтага і хацеў Апанас Трошка.

Добра ўцямілі паляўнічыя і важнасьць перабудовы работы з ячэек у брыгады.

— Выгадней яно значна, паваротлівей. Лепш паміж сабою і абавязкі разьмеркаваць, лепш праверыць іх выкананьне, наладзіць сацспаборніцтва,—разважаў Трошка.

Сьпявалі пеўні, значыць ужо за поўнач. Хлюпаў сьнег пад нагамі мяккі такі, кволы. А вецер параней шаму ацякаў па твару сьвежымі струменямі.



Тав. Зубаровіч Арсень — кіраўнік вытворча - прамысловай брыгады паляўнічых в. Замошша, Дарасінскага с-с Слуцкага раёну. Актывіст—калгасьнік, ударнік—паляўнічы

# З лістоў паляўнічых-рабселькораў

2-га лістапада 1932 году у вёсцы Сенічаўка, Барышаўскага раёну, Кіеўскай вобласьці, была злоўлена чайка, у якой на назе быў пярсьцёнак з надпісам: „31, БССР, 25-9 І. К.". **Юрчанка Астрак.**

25 сьнежня 1932 г. ў адлегласьці 1 кілёмэтру ад ст. Старыя Дарогі матарыст т. Забаўскі дрэзінай зарэзаў ваўка, які ішоў па палатне чыгункі.

Тав. Забаўскі прэміяваны 30 рублямі грошай.

**Паплаўскі.**

Чачэрскім райтаварыствам паляўнічых амаль не праводзіцца ніякай работы, ня выконваюцца дырэктывы Белкахотсаюзу і г. д. Старшыня райтаварыства **Міхайлаў**—кулацкі агэнт, прашыўся ў рады партыі выпадкова. У час збожжазагатовак захоўваў хлеб, каб ня здаць дзяржаве.

Гора-кіраўнік, клясавы вораг—Міхайлаў—яўным чынам разваліў работу райтаварыства паляўнічых. Міхайлаву не павінна быць месца ня толькі на чале таварыства паляўнічых, але і ў радох КП(б)Б.

Аздаравіць кіраўніцтва райтаварыства паляўнічых.

**Паляўнічы.**

## Калі будзе канец бязьдзейнасьці?

(*Ліст з Брагіна*)

Брагінскім РВК была адпушчана ў 1932 г. для райсаюзу паляўнічых каля 7 *га* зямлі для трусагадоўчай гаспадаркі. Райтаварыствам своечасова праведзена сяўба і ўборка ўраджаю.

Сабрана ўраджаю: аўсу 7,93 *цнт*, грэчкі некалькі цэнтнераў, 20 *цнт* буракоў, 62,5 *цнт* морквы, 13,2 *цнт* вікі і 58,3 *цнт* сена.

Набыўшы такую колькасьць кармоў **Сідарэнка** рашыў, што гэта вельмі шмат, што для маючайся колькасьці трусоў хопіць і паловы. З гэтага і пачалася.

Сідарэнка купіў дом за 20 пуд. аўса, 8 пуд. грэчкі, 10 пудоў макухі і 300 рублёў грашыма ў перакупшчыка Гузмана. Збожжа Гузман прыняў ад Сідарэнкі па цьвёрдых цэнах, якое потым прадаў на рынку.

Але на гэтым сваю злачынную дзейнасьць Сідарэнка ня спыніў. Ен пашоў далей.

На праўленьні райтаварыства было вырашана, што буракоў ёсьць лішкі і што можна нават прадаць пудоў 100 па 3 рублі за пуд. Каму-ж яны праданы? Старшыні рэўкамісіі **Ганчарэнку**—15 пуд., **Гузману**—15 пуд. і г. д. Наогул разьмеркаваны паміж „сваімі" людзьмі.

Цяпер паглядзім, што робіцца ў трусятніку. Трусы знаходзіліся ў гумне. Усяго было 37 клетак. Але чамусьці не спадабалася „кіраўніком" трымаць трусоў у гумне. Перавезьлі трусятнік у м. Брагін і вызначылі адказным за догляд т. **Прыходзьку**. У мястэчку трусоў зьмясьцілі хворых і здаровых у адным пакоі на другім паверсе ў сырым мураваным памяшканьні.

Прыходзька ня ведаў як даглядаць трусоў, у выніку пачаліся яшчэ большыя захворваньні трусоў, бруд і г. д.

Паглядзім што робіцца па краме.

Крамнік тав. **Палуян** у прыёме пушніны і мехсыравіны спадзяецца на самацёк. Між тым плян па пушніне і мехсыравіне выкананы толькі на 30 проц.

Наогул усялякая работа ў райтаварыстве паляўнічых Брагінскага раёну адсутнічае. Да гэтага часу ня выканана дырэктыва Белкахотсаюзу аб перабудове работы паляўнічых ячэек у брыгады. Не праведзена перарэгістрацыя членаў саюзу паляўнічых.

Гэта ў той час, калі дарэмна атрымліваюць грошы старшыня райтаварыства, крамнік, бухгальтар, загадчык гаспадаркі, вартаўнік. Усяго выдаткуе ў месяц таварыства паляўнічых 325 рублёў, а карысьці ад гэтага дзяржаве ні на грош.

Бязьдзейнасьці Брагінскага т-ва паляўнічых трэба пакласьці канец. Слова за Белкахотсаюзам.

**Шылец.**

## Выгнаць чужакоў з саюзу паляўнічых

(*Мазырскі раён*)

Ня гледзячы на тое, што паляўнічая гаспадарка мае вялікае значэньне ў справе паляпшэньня паляўнічых угодзьдзяў, асабліва ў час другой пяцігодкі, Мазырскае райтаварыства паляўнічых у гэтым напрамку палец аб палец ня ўдарыла. Наадварот, сваёю бязьдзейнасьцю амаль разваліла ўсю арганізацыю паляўнічых.

Вось факты. Зеляноцкая ячэйка паляўнічых налічвае 25 чалавек, але ў ячэйцы не праводзіцца ніякай палітыка-масавай работы сярод паляўнічых і нават не праведзена ніводнага сходу. Не праведзена рэарганізацыя ячэек у брыгады, не праводзіцца і перарэгістрацыя.

Адсутнічае барацьба з браканьерамі, брадзячымі сабакамі. Гэта і спрыяла невыкананьню мехпушсыравіны па Зеляноцкім пункту. Паляўнічыя не ўзялі на сябе абавязацельства па выкананьні пляна здачы пушніны, не разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Ніводзін паляўнічы ня выпісвае і ня чытае свой часопіс **„Паляўнічы Беларусі"**.

Ды да таго старшыня сельячэйкі **Варанчук** зьяўляецца заможнікам і імкнецца сарваць усю работу паляўнічых.

Такое становішча ў большасьці ячэек паляўнічых у раёне. Трэба неадкладна аздаравіць кіраўніцтва паляўнічых, выгнаўшы з райапарату і сельячэек чужакоў і бязьдзейнікаў. **Цімашэнка.**

## Так працягвацца ня можа

(*Асьвейскі раён*)

Аб рабоце раённага таварыства паляўнічых дагэтуль ня пісалася.

Варта напісаць.

Сходаў паляўнічых Асьвея не бачыла ўжо больш году. Арганізацыйнай работы не адчуваецца.

Старшыня таварыства **Лук'янчык** бязьдзейнічае.

Атрымала т-ва 80 кілё шроту. Каму яго выдалі? Ясюкевічу, Русаку ды іншым, якія разбазарваюць шрот на шапкі і г. д. А паляўнічыя-прамысловікі з адчыненьнем сэзону паляваньня на пушнога зьвера—засталіся бяз шроту.

Таварыства не дае шроту і за зданую пушніну. У выніку паляўнічы пушніны або зусім не здае, або нясе ў другія арганізацыі, хаця-б быў і дагаворам зьвязаны з т-вам паляўнічых.

Так працягвацца ня можа. **Паляўнічы 52.**

Цана 40 кап.

# НА ВЫСЬПЕ НЕСПАКОЙНА

(*Чашніцкі раён*)

Партыяй і ўрадам пытаньню разьвіцьця трусагадоўлі ўдзяляецца шмат увагі.

З боку праўленьня Белкахотсаюзу ў ажыцьцяўленьне пастаноў партыі і ўраду па трусагадоўлі дадзена рад дырэктыўных указаньняў райтаварыствам паляўнічых. Але-ж радам праўленьняў райтаварыстваў ігнаруюцца гэтыя дырэктывы, у выніку чаго мы маем невыкананьне плянавых заданьняў па ўкамплектаваньню грунтоўнага стада. Аб гэтым сьведчаць факты. Дзякуючы незацікаўленасьці і бязьдзейнасьці праўленьня райтаварыства паляўнічых у справе разьвіцьця трусагадоўл, вартаўнік **Каваленка** злачынна разбазарвае маючаеся стада трусоў.

Вясною 1932 году на высьпе Жэрынскага возера была Чашніцкім т-вам арганізавана **трусагадоўчая гаспадарка з 96 трусаматак і больш дзесятка самцоў**. Умовы на гэтай высьпе для трусоў былі надзвычай добрыя і ад 96 трусаматак павінен быў быць прыплод, ня менш чым 1220 штук маладняку. Возьмем скінем з гэтага ліку 35 проц. адыходу і то засталося-б 800—900 трусоў.

А што-ж атрымалася ў сапраўднасьці? 19 сьнежня 1932 г. быў зроблены адлоў трусоў і пасьля падліку аказалася, што з старымі і маладняком ёсьць толькі 310 галоў трусоў. На заданае пытаньне вартаўніку Каваленка чаму такі малы прыплод і дзе маглі дзецца астатнія трусы, Каваленка адказаў:

— Драпежнікі зьнішчылі.

Мы лічым, што галоўным драпежнікам тут зьяўляўся сам Каваленка, які зьнішчаў трусоў для свайго спажываньня і надзяляў імі сваякоў.

Як-жа аднеслася да гэтай справы праўленьне райтаварыства? Зусім спакойна. „Ня хапае трусоў, ну і ліха з імі“—адказвалі з райтаварыства паляўнічых.

І ўсё было-б спакойна, каб не ўзялося за гэтую справу праўленьне Белкахотсаюзу, якое прапанавала райтаварыству вартаўніка Каваленку зьняць з працы і справу аб ім перадаць сьледчым органам.

Мала прыцягнуць да суровай адказнасьці злачынца Каваленку. Райтаварыства паляўнічых Чашніцкага раёну павінны таксама панесьці адказнасьць за дапушчанае злачыннае разбазарваньне трусоў, за ігнараваньне пастановы партыі і ўраду аб разьвіцьці трусагадоўлі.

**П—ро**







Здана ў набор 21-I
Падпісана да друку 30-I
Набірала брыгада т. Нячаева
Вышла з друку 2-II

Рэдкалегія: Волдынь, Вільдфлуш, Кутылоўскі і праф. Федзюшын.

Адказны рэдактар: А. Вільдфлуш.

Друкарня імя Сталіна, Зак. № 429. 12000 экз. Мен. Гарліт № 1336.


